

*В. В. МАЯКОЎСКІ*

# ТАВАРЫШ ШПАК, ЦЯБЕ ЧАКАЕМ! ТЫ ЧАМУ НЕ ПРЫЛЯТАЕШ?

*Верш В. В. МАЯКОЎСКАГА*

Нясецца кліч
з усіх бакоў,
нясецца кліч
ва ўсе бакі:
— Вясна прышла!
Вітай шпакоў!
Гэй, калі ласка, к нам,
шпакі!—
У лепшай мясцінцы
свайго густога саду,
на лепшай
галінцы
табе збудуем хату.
Хоць птушка і малая,
а шмат яна з'ядае.
Гатовы для вячэры
і матылькі і чэрві.

Ды з-за мора,
ды з-за лесу
не ляцяць
пакуль
шпакі.
піонеры
самі лезуць
на бярэзіны бакі.
Адзін
з трубою на насу
усеўся
аж на самы сук.
— Успырхнуць-бы, ляцець,
шпакоў прамовай стрэць.—
Адна замінка—
бяскрылая спінка.
Грукоча гром
ад труб дэяцей,
грыміць ад барабана.
Шпакі,
пара ўжо вам
ляцець,
чакаем вас
ад ранай—
Шпакі пагоды лепшай
чакаюць за лясамі.
Рэбята
у шпакоўні
паселі з гора самі.
Прылеціць
шпак
да нас у сад:
— Няма мястоў,
ляці назад!—
Хачу,
каб гэты кліч
лунаў
па ўсіх атрадах нашых:
— Таварыш,
піонерскіх спраў
не забывай
з-за пташак!






*Маракі ледаколаў „Таймыр" і „Мурман" на станцыі „Паўночны полюс" 19 лютага 1938 года.*

# ПАПАНІНЦЫ

Далёка, сярод адвечнага лёду, у абдымках суровага холаду знаходзіцца Паўночны полюс. Ніякіх адзнакаў жыцця. Бязмежная ледзяная пустыня.

Ужо даўно даследчыкі розных буржуазных краін рабілі спробы дасягнуць Паўночнага полюса. Але такія задачы былі не пад сілу буржуазным вучоным і іхнім гаспадарам. Паўночны полюс так і аставаўся загадкай для чалавека.

І толькі наша совецкая краіна змагла дасягнуць Паўночнага полюса і даследваць яго.



*Іван Дзімітравіч Папанін за абедам на Паўночным полюсе*

21 мая 1937 г. герой Совецкага Саюза таварыш Вадап'янаў даставіў на самалёце на Паўночны полюс чатырох адважных совецкіх даследчыкаў, таварышоў — Папаніна, Крэнкеля, Шыршова і Фёдарава.

Даследчыкі размясціліся на дрэйфуючай ільдзіне, гэта значыць на ільдзіне, якая плыве па моры, куды нясе вада.

На гэту ільдзіну былі дастаўлены на самалётах прылады і абсталяванне для правядзення навуковай работы, а таксама харчы для даследчыкаў.

Папанінцы адразу-ж распачалі навуковую работу. Яны ўсебакова вывучалі асаблівасці паўночнага клімату, даследвалі напрамкі вятроў, вымяралі тэмпературу, глыбіню і цячэнне вады ў акіяне і г. д. Ім удалося сабраць шмат карыснага для навукі, што да гэтага часу было зусім невядома.

На дрэйфуючай ільдзіне папанінцы наладзілі палярную станцыю „Паўночны полюс“ і высока ўзнялі чырвоны сцяг краіны Советаў. Славуты радыст Крэнкель кожны дзень перадаваў у Маскву весткі аб іхняй рабоце. Гераічная работа папанінцаў была далёка нялёгкай.



*Е. К. Фёдараў аглядае прылады метэаралагічнай станцыі*

Але бязмежна адданыя сваёй любімай радзіме, сагрэтыя сталінскімі клопатамі і ўвагаю ўсяго совецкага народа, папанінцы гераічна перамагалі ўсе перашкоды, ні на хвіліну не пакідалі даручанай ім адказнай работы.

Дзевяць месяцаў знаходзіліся папанінцы на ільдзіне.



*Э. Т. Крэнкель каля сваёй радыёстанцыі на полюсе*

За гэты час ільдзіна была аднесена марскім цячэннем на паўднёвы захад ад Паўночнага полюса больш як на 2500 кіламетраў. Ля берагоў велізарнага, амаль бязлюднага, вострава Грэнландыі ільдзіна разламалася. Папанінцам пагражала небяспека.

У гэты час па загаду ўрада магутныя совецкія караблі „Таймыр“, „Мурман“ і „Ермак“ накіраваліся да берагоў Грэнландыі. Велізарныя ледзяныя горы загараджвалі ім дарогу. Маракі ірвалі лёд аманалам і ішлі наперад.

Нарэшце, 19-га лютага, гераічная чацвёрка папанінцаў з усімі прыладамі станцыі была прынята на борт „Таймыра“ і „Мурмана“.

На пакінутай ільдзіне застаўся высока ўзняты чырвоны сцяг Совецкай краіны.

Караблі пачалі павольна аддаляцца. Чырвоны сцяг горда калыхаўся ў праменях сонца сярод ледзяных гор. Ён напамінаў аб вялікай і слаўнай перамозе магутнай совецкай краіны і яе герояў.

**Я. Герасімовіч.**



*Белы мядзведзь каля кіноапарата на Паўночным полюсе*

# З ЖЫЦЦЯ Ў ЛАГЕРЫ

*Артыкул Героя Совецкага Саюза І. Д. ПАПАНІНА*

I

З раніцы да позняга вечара мы заняты былі работай. Па праўдзе кажучы, „вечар“ тут не зусім падхадзячае слова. У летнія месяцы сонца ў нас не заходзіла круглыя суткі. Яно так прыгравала ільдзіны, што вакол нашага гарадка з'явіліся азёры прэснай вады.

Адзін радыёаматар з новай Гвінеі, звязаўшыся з Эрнстам Тэадоравічам Крэнкелем, з трывогай запытаў нас па радыё:

— Кажуць у вас нейкае возера з'явілася. Ці не паграждае яно лагеру?!

Эрнст Тэадоравіч супакоіў радыёаматара:

— Усё ў парадку,—адказаў ён коратка.

Пётр Пятровіч Ширшоў і Еўгеній Канстанцінавіч Фёдараў амаль не адыходзілі ад сваіх навуковых прыладаў. Часта і нам з Крэнкелем прыходзілася ім памагаць. Калі трэба было браць пробы са дна акіяна, работы хапала ўсім: па чарзе мы круцілі лябёдку.

Аднойчы, вымерваючы глыбіню акіяна, мы выпусцілі амаль увесь трос, а дна ўсё не было. Мы са здзіўленнем глядзелі адзін на другога: „Ці хутка канец?“ Лябёдка ўсё раскручвалася... Нарэшце груз дасягнуў дна. Глыбіня акіяна была 4296 метраў!

II

У вольны ад работы час мы часта адпраўляліся на лыжах аглядаць сваю гаспадарку. У адну з такіх вылазак была заўважана недалёка ад лагера расколіна шырынёю ў некалькі дзесяткаў метраў. Тут Ширшоў і Фёдараў адкрылі неўзабаве водны „сезон“: яны каталіся на байдарцы.



*Гераічная чацвёрка папанінцаў—П. П. Ширшоў, Э. Т. Крэнкель, І. Д. Папанін і Е. К. Фёдараў сустракаюць удзельнікаў экспедыцыі „Таймыра“ і „Мурмана“*

Наша ільдзіна плыла на поўдзень. Надыходзіла зіма. Усё часцей і часцей завывала пурга. Туманы і хмары ахутвалі лагер. Потым схавалася сонца. Настала палярная ноч.

Іншы раз у штормавую пагоду нам прыходзілася асабліва туга, але мы былі спакойныя за сваё жыццё. Кожны з нас ведаў, што партыя і ўрад і родны таварыш Сталін не пакінуць нас у цяжкія хвіліны.

Здаралася, што палатку зусім засыпала снегам. Прыходзілася пракопваць у вялізарных гурбах ходы і траншэі, каб выбрацца наверх, а нам была дарага кожная хвіліна. Кожнаму хацелася зрабіць як мага больш навуковых назіранняў. У мароз, у пургу, у шторм вылазілі мы з палаткі і неслі цяжкую палярную вахту. Незалежна ад пагоды, станцыя „Паўночны полюс“ перадавала на Вялікую Зямлю вынікі нашых навуковых назіранняў.

Нарэшце наша ільдзіна дасягла Грэнландскага мора. Тут трэба было быць асабліва пільным. Частыя штормы маглі разбурыць лагер. Мы ўстанавілі назіранні за перасоўкай ільдоў.

У канцы студзеня ў Грэнландскім моры пачаўся асабліва моцны шторм. Мора бушавала цэлых шэсць

сутак. Калючы вецер рваў палатку. Усе гэтыя дні нам прышлося нават не выходзіць на „вуліцу“. Толькі Фёдараў і Крэнкель чатыры разы ў суткі пакідалі палатку, каб скласці зводку пагоды.



*І. Д. Папанін з сабакам Вясёлым на станцыі „Паўночны полюс“.*

III

Першым чалавекам з Вялікай Зямлі, які пабыў у нашым лагеры, быў пілот Власаў.

19 лютага мы ўбачылі недалёка ад лагера ледаколы „Мурман“ і „Таймыр“. З хваляваннем глядзелі мы як ад бартоў караблёў пацягнуліся да нас ланцужком людзі. Яны ішлі да нас з чырвонымі сцягамі ў руках. Мы ўзабраліся на высокі торас і, высока ўзняўшы над сабою партрэт вялікага Сталіна, чакалі адважныя экіпажы караблёў.

У мяне і маіх таварышоў міжвольна навярцеліся на вочы слёзы.

— Здаровы, браткі родныя!—закрычаў я да людзей.

Калі адгучэлі прывітанні ў гонар мудрага Сталіна, які натхняў нас у час работы на зімоўцы, людзі акружылі нас. Цяжка апісаць, што адбывалася ў гэтыя хвіліны на ільдзіне. Нас ледзь не разарвалі на часткі. Кожны хацеў першым паціснуць нам руку. Ад бегатні к нам ва ўсіх твары былі мокрыя. Усе спяшаліся цалавацца і павіншаваць з паспяховым заканчэннем экспедыцыі.

У 15 гадзін 55 хвілін Эрнст Тэадоравіч сеў у апошні раз за сваю радыёстанцыю і перадаў у Маскву, у Крэмль таварышу Сталіну і кіраўнікам партыі і ўраду рапарт.

Потым ён адстукаў у эфір: „Усім, усім, усім. Канчаю сваю работу. Крэнкель“.

15 сакавіка 1938 г. Ленінград



*Перавозка на нартах маёмасці станцыі „Паўночны полюс“ для пагрузкі на ледаколы*

# Матылёк

Верш Я. ГЕРАСІМОВІЧА

I

Ў садзе на галінцы
Птушачка спявае
Ды ў травіцы-муражніцы
Чарвячкоў шукае.
Паглядзела—з боку
Лісцік нахіліўся,
А на лісціку зялёным
Вусень пачапіўся.
Запытала птушка
Вусня на лісточку:



—Скуль ты, браце, ўзяўся
Тут на муражочку?
— Быў у мяне татка
Жоўты матылёчак
Ды нанёс яечак
Вось у той куточак.
З тых самых яечак
На свет вышаў я,
А гэты куточак—
Радзіма мая.
Сам я непрыгожы,
Хаджу абы як,
Поўзаю ды лажу,
Нібы той чарвяк.
Людзі мяне ганяць,
Мне ад іх найгорай,
Бо я нарадзіўся
Злодзеем, пражорай.
Ем, грызу капусту,
Што садзіў гароднік,
Людзі мяне лаюць,
Кажуць, што я шкоднік.
У тым агародзе,
Вось ад той капусты
Я зраблюся, як мянтуз,

Тоўсценькі ды тлусты.
Стану нерухавым,
Ад хваста да рота,
Вось тады я прывяжуся
Ніткаю да плоту.
Прывяжуся, пачаплюся,
Як маленькі камячок,
Потым жыць перабяруся
У цікавы капшучок.

II

Прыляцела птушка,
Села на галінку,
Ды пытае матылька:
— Пачакай хвілінку,
Ды скажы мне, любы,
Скуль ты такі ўзяўся,
Дзе ты жыў, дзе ты быў,
Дзе ты прыбіраўся?
— Прыляцеў я з поля,
Жыў я ў адзіноце,
Нарадзіўся з капшучка,
Што вісеў на плоце.
Сонца мяне грэла,
Зямліца карміла,
А кветачка-суседачка
Малачком паіла.
Прыбіраўся ўсюды,
У гаях, на кветках,
На зялёным муражку,
Ў залатых палетках.
Умываўся ў лузе
Чыстаю расіцай,
Выціраўся рана
Муражком-травіцай.
Мне былінка ў полі
Казачкі шаптала,
На сваіх галінках
Ціха калыхала.
А лагодны ветрык,
Нёс мяне па свеце,
Дзе красуе радасць,
Дзе смяюцца дзеці.
Дзе вадзіца вольна
Па жоўтым пясочку
Коціцца, імкнецца
Ў зялёным лужочку.
Дзе хвойкі на ўзгорку,
Ды каля крыніцы
Шумяць ды гамоняць
Над срэбрам вадзіцы.
А цяпер я панясу
Жоўценькіх яечак
На травіцы-муражніцы
Каля быстрых рэчак.
Сяду на лісточак,
Ахіну павекі
Ды забудуся, засну
Ціхім сном навекі.
А прыгожае жыццё
Забруліць нанова...
Я пайду адпачываць,
Дык бывай здарова!






*Апавяданне А. П. ЧЭХАВА*

*Малюнкі К. ГЕДДА*

Раніца. Скрозь ледзяныя ўзоры, што закрываюць сабою аконнае шкло, прабіваецца ў дзіцячы пакой яркае сонечнае святло. Ваня, хлопчык гадоў шасці, стрыжаны, з носам, падобным на гузік, і яго сястра Ніна, чатырохгадовая дзяўчынка, кучаравая пухленькая, нізкарослая не па гадах, прачынаюцца і праз загарадкі ў ложках глядзяць сярдзіта адзін на другога.

— У-у-у, сараматнікі!—мармыча нянька.— Добрыя людзі ўжо чаю напіліся, а вы ніяк вачэй не пралупіце.

Сонечныя праменні весела дурэюць на палавіку, на сценах, на няньчыным фартусе і нібы запрашаюць пагуляць з імі, але дзеці не заўважаюць іх. Яны прачнуліся не ў настроі. Ніна надзімае губы, робіць кіслы твар і пачынае цягуча:

— Ча-аю! Нянька, ча-аю!

Ваня моршчыць лоб і думае: якую-б знайсці прычыну, каб зараўсці? Ён ужо заміргаў вачыма і разявіў рот, але ў гэты час з гасцінай пачуўся матчын голас:

— Не забудзьцеся даць кошцы малака, у яе цяпер кацяняты!

Ваня і Ніна выцягваюць фізіяноміі і са здзіўленнем глядзяць адзін на другога, потым абое разам ускрыкваюць, скачуць з ложкаў і, глушачы паветра звонкім піскам, бягуць босыя, у адных нацельных рубашачках, у кухню.

— Кошка акацілася!—крычаць яны. — Кошка акацілася!

У кухні пад лаўкай стаіць невялікая скрынка, тая самая, у якой Сцяпан носіць кокс, калі раскладае агонь у каміне. З скрынкі пазірае на іх кошка. Яе шэрая мордачка выяўляе незвычайную зморанасць, зялёныя вочы з вузкімі чорнымі зрэнкамі глядзяць пяшчотна, замілавана... Чуваць піск кацянят.

— Якія маленькія!—кажа Ніна, робячы вялікія вочы і залівагочыся вясёлым смехам.—Падобныя на мышаў.

— Раз, два, тры,—лічыць Ваня.—Тры кацяняткі. Значыць, мне адно, табе адно і яшчэ каму-небудзь адно.

— Мурррм... мурррм...—мурлыкае кошка-маці, задаволеная увагай да яе. — Мурррм.

Наглядзеўшыся на кацянят, дзеці бяруць іх з-пад кошкі і пачынаюць ціскаць у руках, потым, не здаволіўшыся гэтым, кладуць іх у прыполы рубашак і бягуць у пакоі.

— Мама, кошка акацілася!—крычаць яны.

Маці сядзіць у гасцінай з некім незнаёмым мужчынам. Убачыўшы дзяцей, няўмытых, неадзетых, з паднятымі ўверх прыполамі, яна канфузіцца і робіць строгія вочы.

— Апусціце рубашкі, бессаромнікі,—кажа яна.—Пайшлі адсюль, а то я вам дам...

Але дзеці не заўважаюць ні матчыных пагроз, ні таго, што сядзіць чужы чалавек. Яны кладут кацянят на палавік, і ўзнімаюць страшэнны піск. Каля іх ходзіць кошка і жаласна мяўкае. Калі, крыху счакаўшы, дзяцей цягнуць у дзіцячы пакой, адзяюць іх, ставяць на малітву і пояць чаем, яны з нецярплівасцю чакаюць канца ўсім гэтым нудным абавязкам, каб пасля зноў бегчы на кухню.

Звычайныя заняткі і гульні адыходзяць на самы задні план.

Кацяняты сваім з'яўленнем на свет зацямняюць усё і становяцца жывою навіною сёняшняга дня. Калі-б Ваню альбо Ніне за кожнае кацяня прапанавалі па пуду цукерак ці па тысячы грыўняў, дык яны адмовіліся-б ад такой мены без жаднага разважання. Да самага абеду, не гледзячы на гарачыя пратэсты нянькі і кухаркі, яны сядзяць на кухні каля скрынкі і забаўляюцца з кацянятамі. На тварах іх відаць сур'ёзнасць, увага да свае справы і заклапочанасць. Іх трывожыць не толькі цяперашняе, але і будучае кацянят. Яны парашылі, што адно кацянё астанецца дома пры старой кошцы, каб цешыць сваю матку, другое паедзе на дачу, трэцяе будзе жыць у склепе, дзе вельмі шмат пацукоў.

— Але чаму яны не пазіраюць?—думае заклапочаная Ніна.—У іх вочы сляпыя, як у старцоў.

І Ваню непакоіць гэта пытанне. Ён спрабуе адплюшчыць аднаму кацяняці вочы, доўга пыхкае і сапе, але спроба яго не мае поспеху. Не мала таксама непакоіць іх і тое, што кацяняты ўпарта адмаўляюцца ад мяса і малака. Усё, што кладзецца дзецьмі перад іх мордачкамі, з'ядаецца шэраю маткаю.



— Давай паробім кацяняткам хаткі,— прапануе Ваня.—Яны будуць жыць у розных хатках, а кошка будзе да іх у госці хадзіць...

У розных кутках кухні ставяцца картонкі з-пад капялюшоў. У іх перасаджваюцца кацяняты. Але такая сямейная дзяльба не прызнаецца кошкаю, якая тут-жа абыходзіць усе картонныя хаткі і зносіць сваіх дзяцей на ранейшае месца.

— Кошка іхняя маці,—робіць заўвагу Ваня, — а хто бацька? — Без бацькі ім нельга.

Ваня і Ніна доўга вырашаюць, каму быць бацькам кацянят, і, нарэшце, выбар іх прыпадае на вялікага, цёмначырвонага бясхвостага каня, які валяецца ў кладоўцы пад лесніцай і разам з другімі паламанымі лялькамі дажывае свой век. Яго дастаюць з кладоўкі і ставяць каля скрынкі.

— Глядзі-ж!—з пагрозай загадваюць яму.—Стой тут і глядзі, каб яны трымалі сябе прыстойна, як належыць.

Усё гэта гаворыцца і робіцца самым сур'ёзным чынам і з поўнай заклапочанасцю на тварыках. Апрача скрынкі з кацянятамі, Ваня і Ніна не хочуць ведаць нічога другога. Радасць іх не мае межаў. Але прыходзіцца перажываць і цяжкія, пакутныя хвіліны.

Перад самым абедам Ваня сядзіць у бацькавым габінеце і задуменна глядзіць на стол. Каля лямпы на гербавай паперы варушыцца кацяня. Ваня сочыць за яго рухамі і тыкае яму ў мордачку то карандашом, то запалкай... Раптам, нібы з зямлі вырасшы, каля стала з'яўляецца бацька.

— Гэта што такое?—чуе Ваня сярдзіты голас.

— Гэта... гэта кацянятка, тата...

— Вось я табе пакажу кацянятка! Паглядзі, што ты нарабіў, нягодны хлапчук! Ты ў мяне ўсю паперу запэцкаў!

На вялікае здзіўленне Вані, бацька не падзяляе яго сімпатый да кацянят, і, заместа таго, каб быць бязмежна задаволеным і радавацца, ён круціць Ваню за вуха і крычыць:

— Сцяпан, забяры гэту гадасць!

За абедам таксама скандал... У час другога блюда ўсе раптам чуюць піск. Пачынаюць шукаць прычыны і знаходзяць у Ніны пад хвартушком кацянятка.

— Нінка, вон з-за стала!—злуецца бацька.—Зараз-жа выкінуць кацянят у памыйніцу! Каб гэтай гадасці не было ў доме!..

Ваня і Ніна страшэнна перапалоханы. Смерць у памыйніцы апрача сваёй лютасці, пагражае яшчэ адабраць у кошкі і драўлянага каня іх дзяцей, спустошыць скрынку, разбурыць планы будучага, калі адзін кот будзе даглядаць сваю старую матку, другі— жыць на дачы, трэці—лавіць пацукоў у склепе... Дзеці пачынаюць плакаць і прасіць не выкідаць кацянят. Бацька згаджаецца, але з умоваю, каб дзеці не хадзілі ў кухню і не чапалі кацянят.

Пасля абеда Ваня і Ніна швэндаюцца па ўсіх пакоях і не знаходзяць сабе месца. Забарона хадзіць у кухню сапсавала ўвесь іх настрой. Яны адмаўляюцца ад цукерак, капрызяць і дрэнна абыходзяцца з маткай. Калі ўвечары прыходзіць дзядзя Пятруша, яны адводзяць яго ў бок і скардзяцца яму на бацьку, які хацеў выкінуць кацянят у памыйніцу.

— Дзядзя Пятруша,—просяць яны дзядзю,—скажы маме, каб кацянят у наш пакой паставілі. Ска-ажы!

— Ну, ну... добра!—адмахваецца ад іх дзядзя.—Добра.

Дзядзя Пятруша прыходзіць звычайна не адзін. З ім з'яўляецца і Нэро, вялікі, чорны сабака датскай пароды, з адвіслымі вушамі і з хвастом, цвёрдым, як палка. Гэты сабака маўклівы, хмурны і поўны пачуцця і павагі

да свае асобы. На дзяцей ён не звяртае аніякай увагі і, шагаючы каля іх, стукае па іх сваім хвастом, як па крэслах. Дзеці страшэнна не любяць яго, але на гэты раз практычныя меркаванні бяруць у іх верх над пачуццём.

— Ведаеш што, Ніна?—кажа Ваня, робячы вялікія вочы.—Заместа каня няхай Нэро будзе бацькам! Конь дохлы, а сабака жывы.

Увесь вечар яны чакаюць таго часу, калі бацька ўсядзецца гуляць у вінт і можна будзе непрыкметна правесці Нэро ў кухню... Вось, нарэшце, бацька садзіцца гуляць у карты, мама ўвіхаецца каля самавара і не бачыць дзяцей... Надыходзіць шчаслівы момант.



— Хадзем!—шэпча Ваня сястры.

Але ў гэты час уваходзіць Сцяпан і са смехам паведамляе:

— Пані, Нэра кацянят з'ела!

Ніна і Ваня бялеюць і з жахам глядзяць на Сцяпана.

— Дальбог-жа... — смяецца лакей.—Падышла да скрынкі і зжэрла.

Дзяцям здаецца, што ўсе людзі, колькі іх есць у доме, замітусяцца і накінуцца на злодзея Нэро. Але людзі сядзяць спакойна на сваіх месцах і толькі здзіўляюцца апетыту велізарнага сабакі. Бацька і маці смяюцца... Нэро ходзіць каля стала, памахвае хвастом, самаздаволена аблізваецца... Занепакоена адна толькі кошка. Выцягнуўшы свой хвост, яна ходзіць па пакоі, падазрона паглядвае на людзей і жаласна мяўкае.

— Дзеці, ужо дзесятая гадзіна! Пара спаць!—крычыць маці.

Ваня і Ніна кладуцца спаць, плачуць і доўга думаюць аб пакрыўджанай кошцы і лютым, нахальным, не пакараным Нэро.



# У ЖЫВЫМ КУТКУ

У пакоі, дзе змяшчаецца жывы куток, светла і ўтульна. Чаго толькі тут няма: і рыбы, і птушкі, і звяркі розныя!..

Кожны дзень прыходзяць сюды рэбяты карміць сваіх пітомцаў, наглядаць за імі. Жыхары жывога кутка прывыклі да сваіх сяброў. Вось і цяпер, калі прышлі юнаты, яны адразу ажывіліся. Прыемна заспявалі канарэйкі, наперабой зачырыкалі вераб'і, нават філін прачнуўся, растапырыў крыллі і завярцеўся на жэрдачцы. Запішчалі пацучкі і мышы. У пакоі ў гэты час адчуваеш сябе, як у лесе.

Кіраўніца, Вера Міронаўна, дае рэбятам заданні—каму і каго карміць.

— Дайце мне свінку...

— Дзе мой шарачок?—перапыняючы адзін другога, пытаюць дзеці.

Коля з Маней узялі нажніцы і падышлі да акварыумаў. Маленькімі кавалачкамі рэжуць яны мяса і кідаюць рыбкам, а тыя паразяўлялі раты і жвава хапаюць спажыву. Горш за ўсіх прыходзіцца чарняку—сляпому акуню. Пяць месяцаў таму назад ён аслеп і луска яго набыла колер чорнага аксаміта. З-пад носа перахватваюць яго долю іншыя рыбы.

Таня ўвайшла ў прасторную клетку к ваверкам. Колькі радасці пышнахвостым звяркам! Весела скачуць яны, быццам цыркавыя акрабаты: чапляюцца за галінкі свайго адзінага дрэва, гушкаюцца на качэлях і гамаках, скачуць па Таніных плячах, заглядаюць у кішэні, бо заўсёды яна прыносіць ім чагонебудзь паласавацца. Зараз Таня прынесла сушаных груш. Пад'еўшы, звяркі пачалі складваць рэшту ў запас. Рыжая вавёрка ўскочыла на рашотку клеткі, трымаючы ў зубах пячэнне, якое даў ёй Борык. На момант яна задумалася—куды схаваць? А потым хутка ўлезла ў шапку (гэта яе гняздо), растрыбушыла вату і палажыла туды сваё пячэнне.



Валодзя шукае ў гняздзе вадзяную чарапаху. Яна моцна спіць у кутку, прыкрыўшыся мохам і лісцем.

— Годзе табе спаць,—кажа Валодзя і бярэ яе ў рукі. Чарапаха нездаволена выцягвае шыю, адкрывае вочы і зноў хаваецца ў сваю хатку.





— Ну спі, спі мая чарапашка,—Валодзя пастукаў па яе цвёрдай спіне і паклаў на месца.

— А дзе-ж мой вужачок дзеўся?—не адстае хлопчык. Ён бярэ доўгага вужа, вешае сабе на шыю і важна ходзіць па пакоі. Вуж непрыкметна запоўз Валодзю пад кашулю.

— Вера Міронаўна, вуж ласкоча,—ха-ха-ха...—голасна смяецца акцябронак, трымаючы вужа за галаву.

Скончыўся час кармёжкі. Рэбята ўсаджваюцца за вялікім круглым сталом, на мяккіх, абабітых зялёным плюшам крэслах і пачынаюць дрэсіраваць выхаванцаў.

Лёня падносіць морскай свінцы аловак. Яна перакулілася некалькі разоў і спрытна саскочыла на стол.

— Паглядзі, Барыс, мой шарачок сапраўдны акрабат,—ганарыцца Генік.—У другі раз я буду вучыць яго хадзіць па дроту.

— А мой пацучок, мабыць, хворы, не хоча займацца...

Акцябраты неахвотна развітваюцца з сваімі гадаванцамі да наступнага дня.

**Менск, Палац піонераў**

**О. Мачарадзе**

## З дзенніка юната

**У нашым жывым кутку морская свінка нарадзіла двух дзетак. Маленькія свінкі пакрытыя шэрсцю, з адкрытымі вочкамі. Матка іх корміць сваім малаком. Яны таксама ядуць буракі, яблыкі, булачку. Я сваю маленькую свінку назваў Зайка, бо яна вельмі падобна да зайкі.**

**Лёня Волкаў, 25 шк. III кл.**

## ПЕСЕНЬКА ШКОЛЬНІКА

***А. КРОТ***

Жыццём вясёлым, радасным
У школе мы жывём—
Чытаем, лепім, пішам
І песенькі пяём.
Нам кніжкі дапамогуць
Навукай ауладаць,
Каб нам паслушны сталі
Паветра і вада.
Па іх мы прачытаем,
Як нашыя бацькі
Трымалі ў бойцы смела
Сталёвыя штыкі.
Як з гэтымі штыкамі
Яны перамаглі,
І шчасце заснавалі
На нашае зямлі.
*Прыпеў:* Раз, два, тры—
Кніжкі лепшыя сябры!



*Мал. Карпенкі*

# ПАГАНЫ ПАН

## НАРОДНАЯ КАЗКА

Жыў-быў пан, ды такі паганы, што слова яму не скажы—засячэ розгамі.

Доўга ён так з людзей здзекваўся. Ніхто яму нічога не мог зрабіць.

Але вось аднаго разу сабраліся тры хлопцы і задумалі адплаціць пану за здзекі з сялян.

Пан той любіў часта ў лес ездзіць. Хлопцы і парашылі прыпільнаваць яго ў лесе. Пасталі яны за дрэвамі недалёка ад дарогі і чакаюць. Бачаць, едзе павозка, а ў ёй тоўсты пан сядзіць.

Пад'ехаў пан блізка, а хлопцы выскачылі на дарогу і крыкнулі:

— Стой, гад!

Пан так і аслупянеў.

Узялі хлопцы пана, завялі далёка ў лес ды прывязалі да дрэва.

Стаіць пан, дрыжыць, а потым і пытаецца:

— Як вас завуць?

Адзін кажа: „Мяне завуць „Няруш", другі — „Нечапай", а трэці — „Якая табе справа".

Сказалі гэта хлопцы і пайшлі, а пан астаўся.

Вось на заўтра ідзе сюдою селянін. Убачыў ён пана ды пытаецца:

— Хто гэта, пане, цябе прывязаў?

— Няруш, нечапай, якая табе справа!— закрычаў пан.

Селянін завярнуўся і пайшоў сваёй дарогай. А паганы пан стаяў так у лесе, пакуль не зайшоўся.

# ЗАГАДКІ ПАЎНОЧНЫХ НАРОДАЎ

## АСЦЯЦКАЯ

1. Што чалавек раніцаю лічыць, увечары лічыць, усё жыццё лічыць, а злічыць не можа.

## НЕНЕЦКІЯ

2. Пры двух руках, з адной нагой, ходзіць па вадзе, на сябе носіць, а не тоне.

3. Не звер, а з рабрынамі; у дарогу ідзе—шкуру знімае і рабрыны складвае; прыдзе на месца—рабрыны расставіць і шкурай адзенецца.

4. Розуму няма, а хітры.

## ЯКУЦКІЯ

5. У шэрай кабылы слядоў не відаць.

6. Карацейшы за іголку, а стукае, як тапор.

7. Колькі яе не ясі—пад'еўшы не будзеш.

8. Меншае за ягаду, дужэйшае за быка.

Адгадкі: *1. Гузікі на сваім адзенні. 2. Лодка. 3. Чум — жыллё ненца. 4. Капкан. 5. Човен. 6. Дзятлаў нос. 7. Сліна. 8. Куля.*

---

## ФОКУСЫ-ЖАРТЫ

1. Хто зможа намаляваць круг і, не выходзячы з яго, дастаць любы прадмет нават з другога пакою?

2. Хто зможа напіцца вады з закрытай бутэлькі, не адкрываючы яе.

Адказы: *1. Нарысуй круг у цябе вакол пояса і, не выходзячы з яго, выканай, што абяцаў. 2. Перавярні бутэльку, налі вады на дно і напіся.*

# ПАДЗЯЛІЦЕ БУЛЬБУ

Тры салдаты ішлі з вайны дахаты.

Зайшлі яны ў адну вёску і папрасілі гаспадыню зварыць ім на вячэру бульбы.

Пакуль гаспадыня варыла бульбу, змораныя салдаты ляглі на лаве і заснулі.

Зварылася бульба. Гаспадыня паставіла яе на стол, а будзіць салдатаў не хацела, бо надта саладка яны спалі.

Прачнуўся адзін салдат уначы, бачыць— бульба гатова, а таварышы спяць. З'еў ён трэцюю частку і зноў лёг. Потым прачнуўся другі салдат і, не ведаючы, што першы з'еў сваю частку, адлічыў трэцюю частку і з'еў. Нарэшце прачнуўся трэці і таксама падзяліў бульбу на трох і з'еў сваю частку.

Раніцою высветлілася ўся гэтая справа. На стале ляжала яшчэ восем бульбін. Салдаты падзялілі іх так, як гэта прыпадала-б адразу.

— Колькі бульбін зварыла гаспадыня і як салдаты падзялілі астатнія восем бульбін?

Адказ. *Гаспадыня зварыла салдатам 27 бульбін. Астатнія восем бульбін салдаты падзялілі так: другому 3, трэцяму 5, а першы свае з'еў адразу.*

## ЗАДАЧА

Пастаўце ў пустыя клеткі такія літары, каб атрымаліся словы, якія пачынаюцца з літары Р і канчаюцца літарай А.

| | | | |
|---|---|---|---|
| р | | | а |
| р | | | а |
| р | | | а |
| р | | | а |
| р | | | а |
| р | | | а |

# ВЯСНА ПРЫШЛА

Прыгрэла цёплае сакавіцкае сонца. Пабеглі ручайкі. Закапала з дрэў. З бярлогі высунуў галаву мядзведзь, каб паглядзець, ці сышоў ужо снег. На палях з'явіліся праталіны.

Дзяцей цяпер не даклікацца ў хату.

І неўзабаве за гэтым з звонкай песняй падняўся ў неба жаваранак. На тапалях раскрычаліся прыляцеўшыя з выраю гракі.

Дзеці ўзяліся за малаткі, за пілы. Майструюць домікі для шпакоў. А яны ўжо сядзяць на бярозах, на правадах і працяжна пасвістваюць:

— Фюіііць! Фюііііць!

Нібы гавораць: хутчэй, хутчэй!

А вераб'і! І адкуль іх столькі набралася! Усё падстрэшша заляпілі. А колькі шуму! Сядзяць натапырыўшы пер'е, нібы гутарку аб нечым вядуць. Раптам—кот з-за страхі: „Фррр!"—і няма ніводнага.



Тымчасам на поле, ля балот, у лесе—усюды з'явіліся птушкі і новыя з'явы. Перш-на-перш высунуў галоўку на свет падснежнік. Падымаючы пласт пачарнелых леташніх лістоў, выглядае смаржок. Над полем жаласна крычыць кнігаўка, ля ракі скача пліска, бляе бекас, у затоцы плешчацца шчупак...

Усё ажыло, усё заварушылася!

А што робіцца каля лесу!? Тут цэлыя тэатры з музыкай і скокамі!

Кулічок недзе за купінкай тоненькім галаском, як наскрыпачцы выцінае:



— Тылі-тыль! Тылі-тыль!

А цецярук на палянцы:

— Прадаў кажух, купіў халат...

Гэта значыць—зіма прайшла.

Яму ў адказ другі:

— Ну, і дзівак! Ну, і дзівак!

— Я дзівак?! Я дзівак?!

Абодвы цецярукі нахахліліся і на адной назе, растапырыўшы крыллі, закружыліся па палянцы ў скоках. Потым, зрабіўшы круг, другі, застылі на месцы з выцягнутымі шыямі і з разбегу ўдарыліся адзін аб другога дзюбкамі, аж пер'е пасыпалася! Такія скокі цецярукоў называюць „токам".

Глушэц вылез з цёмных зарасляў і ўсеўся на смольным суку сасонкі ў імшарах. Раніцай, чуць свет, ён пачаў сваю незабыўную песню. Моцна абхапіў кручкаватымі кіпцямі сук, выцягнуў доўгую шыю і пачаў з слабых гукаў, падобных на ўдар палачкі аб палачку. Потым гэтыя гукі мацнелі і ўдары сыпаліся часцей і часцей. Глушэц забыўся на ўсё! Зараз ён нічога не чуе і не бачыць—так захапіўся сваімі песнямі.

А ў гэты час на ўсе галасы і манеры заспявалі ў садах пеначкі, слаўкі, пліскі, шпакі і зязюлі. Нават у вароны і ў той голас ахрып,—да чаго ўсіх ўзяла ахвота спяваць! Ды і як не спяваць, калі грэе сонейка, зазелянела трава, распусціліся кветкі, лётаюць матылькі, гудуць пчолкі і ў кожны момант што-небудзь новае з'яўляецца на свет! Як не спяваць, калі ў грудзях так цёпла і радасна стукае сэрца, і хочацца выбегчы ў поле, у лес, да рэчкі і крыкнуць:

— Вясна! Вясна прышла!

**М. ЦЭЛЕШ.**

# ФАШЫСЦКІЯ ГАДЫ РАЗДАЎЛЕНЫ

Наша краіна акружана буржуазнымі дзяржавамі. Сярод гэтых дзяржаў ёсць адкрытыя ворагі СССР. Нямецкія японскія, польскія фашысты ўвесь час рыхтуюць напад на Совецкі Саюз.

Але Совецкі Саюз вырас у магутную непераможную сілу. Наша Чырвоная Армія—лепшая армія ў свеце.

Вось чаму фашысты імкнуцца падарваць магутнасць СССР, насадзіць у СССР як мага больш сваіх шпіёнаў і арганізаваць унутры СССР сваіх наймітаў з рознага антысовецкага зброду з тым, каб яны дапамаглі сваім гаспадарам у час вайны.

За апошнія гады слаўныя органы НКВД на чале з тав. Н. І. Ежовым выкрылі нямала фашысцкіх шпіёнаў і ворагаў народа.

Нядаўна Вярхоўны Суд СССР судзіў главароў контррэволюцыйнай трацкісцка-бухарынскай банды. У гэтую банду ўваходзілі лютыя ворагі народа — Бухарын, Рыкаў, Ягода, Крэсцінскі, Ракоўскі, Шаранговіч і інш.

Суд устанавіў, што ўсе яны—японскія, германскія, польскія і англійскія шпіёны, здраднікі партыі і радзімы, ворагі народа.

Чаго дабіваліся гэтыя здраднікі? Яны дабіваліся таго, каб скінуць уладу рабочых і сялян і аднавіць уладу капіталістаў і памешчыкаў. Яны абяцалі аддаць фашыстам Беларусь, Украіну, Грузію і цэлы рад іншых рэспублік і земляў. Подлыя бандыты гатовы былі прадаць рабочых і сялян нашай вольнай краіны ў рабства фашыстам, патапіць іх у крыві.

Суд выявіў усе крывавыя замыслы гэтай шайкі. Бандыты поўнасцю прызналіся ў сваіх злачынствах. Гэта яны забілі дарагога Сяргея Міронавіча Кірава. Гэта яны пры дапамозе дактароў-бандытаў атрутнымі лекамі ўмярцвілі лепшых людзей нашай краіны—таварышоў Куйбышэва, Менжынскага, Максіма Горкага і яго сына—М. Пешкова.

Бандыты не спыняліся ні перад чым. Яны рыхтавалі забойства любімага правадыра народаў таварыша Сталіна і яго верных саратнікаў. Яны ўзрывалі заводы, наладжвалі крушэнні паяздоў, атручвалі страву рабочых, знішчалі пасевы і жывёлу. Польскі шпіён Шаранговіч прызнаўся на судзе, што па яго загадах у Беларусі было заражана і знішчана трыццаць тысяч коней... Па яго загадах у шмат якіх раёнах ворагі грабілі калгаснае сялянства, разбуралі калгасы і інш.

Суд выявіў, што главары бандытаў Троцкі і Бухарын яшчэ ў 1918 г. рыхтавалі забойства правадыроў рэвалюцыі—Леніна, Сталіна і Свердлова.

Але трацкісцка-бухарынскія галаварэзы пралічыліся. Іх выкрылі і пасадзілі на лаву падсудных. Бандыты атрымалі па заслугах. Фашысцкія гады раздаўлены.

Ворагам народа няма і не будзе месца на нашай совецкай зямлі!

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ.
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

САКАВІК 1938 г. № 3

ЦАНА 30 КАП.



# ПРЫГОДЫ МАНА

МАЛ. Л. СМЯХОВА.



1. *Я буду героем!*



2. *Няньчыцца з малымі не хачу!*



3. *Пойдзем шукаць геройстваў.*



4. *Топіцца!*



5. *Я мігам выратую!*



6. *Памагай, Жучок!*



7. *Гэтага я не чакаў.*



8. *Пойдзем далей. Ага! пажар...*

(Працяг будзе)

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна. | 20.000 экз. | Зак. № 3244. | Уп. Галоўліта № 4233.